Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 16 (68) | Вільня, 28-га чэрвеня 1935 г. | Год 3-ці.

## „Шкодная“ а ня „школьная“ палітыка.

Усякая ўлада гаварыць аб неабходнасьці выгнаць палітыку з школы, па сутнасьці-ж якраз імкнецца ды прыкладае як найбольш высілку да таго, каб выгнаць з школы толькі палітыку, непажаданую для тае ці іншае кіруючае групы. У штодзенным жыцьці школы заўсёды й няўхільна праводзіцца пэўны палітычны кірунак. Уся розьніца паміж пасобнымі кіраўнікамі асьветнае палітыкі палягае выключна на тым, што яны мяняюць толькі вывескі ды лёзунгі. Адны „працаўнікі“ палітыкі ў школе заяўляюць, што адзіны дапушчальны шлях узгадаваньня моладзі — гэта „узгадаваньне народнае“; другі „працаўнік“ народнага шовінізму крычыць аб адзіным магчымым і неабходным узгадаваньні — так званым „дзяржаўным“; трэці гаворыць аб „узгадаваньні грамадзкім“ і г. д.

А ў выніку? Што даюць моладзі ўсе гэныя быццам процілежныя кірункі? У першым прыпадку, зразумела, народны шовінізм, у другім — той самы шовінізм, апрануты ў вопратку вялікадзяржаўнасьці пануючага народу, а ў трэцім — тое самае, што ў першых двох. Такім чынам, як бачым, палітыка з школы ня толькі не выганяецца, а наадварот, моладзь атручваецца ядам шовінізму.

А дзе-ж сапраўднае апалітычнае, чыста пэдагагічнае узгадаваньне—узгадаваць **чалавека?**

Нажаль гэтае галоўнае заданьне школы сьпіхаецца на апошні плян.

Найгорш, зразумела, выходзіць на такой палітыцы нашая беларуская моладзь, якая на нашых землях у пачатковых школах становіць амаль што 95%, а ў некатарых выпадках і цэлыя 100%. На ёй якраз і адбываюцца ўсякія «пэдагогічна-узгадаваўчыя» экспэрымэнты?

Калі „палітыка“ ў палітычным значэньні гэтага слова шкодная для польскае моладзі ў школе польскай, дык што-ж сказаць пра школу польскую са стопрацэнтовым беларускім дзіцячым масывам? Як тут выглядае, так званае, «дзяржаўнае узгадаваньне» ды ўсе „актуалізацыі“ „корэляцыі“ ды іншыя „ . . . акцыі“?

Ці дасягаюцца хоць маленькія пазытыўныя вынікі для Дзяржавы? Бязумоўна не! А каб ня быць галаслоўным, прывяду наступны вельмі характэрны факт, які меў месца пры сёлеташніх веснавых уступных экзаменах у І клясу Віленскай Беларускай гімназіі. Кандыдат у І кл. Сьцяпан Н. кончыў у гэтым годзе шэсьць аддзелаў польскае пачаткавае школы ў Ваўкавыскім павеце. На пісьменным экзамене з польскае мовы гэты вучань піша на тэму „Маё падарожжа ў Вільню“.

Праца напісана зусім добра, але зьмест яе забойчы для таго кіраўніка пачатковае польскае школы. дзе вучыўся гэты вучань... Між іншым ён сам у хаце зусім добра прыгатаваўся і з беларускае мовы, бо ў той школе, дзе вучыўся, няма беларускае мовы навет як прадмету.

І вось у гэтай дзіцячай шчырай споведзі наш 12 гадовы Ламаносаў піша падрабязна, як ён вучыўся ў сваёй школе і як адзіным яго лятуценьнем было па сканчэньні 6-ці аддзелаў трапіць у сваю родную беларускую гімназію.

Яшчэ мінулым летам ён аб сваіх лятуценьнях падзяліўся з бацькамі, але тыя не хацелі яго пусьціць у Вільню. Ён аднак не здаваўся і праз цэлы год прыгатаўляўся з беларускае мовы. Нарэшце вясною ў траўні бацькі далі згоду адправіць яго на экзамен у Вільню.

Якая-ж гэта была радасьць!.. „Я дзьве ночы зусім ня спаў“, кажа хлапчук, а 1-га чэрвеня зьвярнуўся да кіраўніка свае школы з просьбаю выдаць мне тымчасовае пасьведчаньне аб пасьпехах для прадстаўленія ў Віленскую Беларускую гімназію. І вось тут... пачынаецца трагэдыя маладое чыстае нескалечанае душы. Кіраўнік, які відаць, рэалізуе ў сваёй школе плян „дзяржаўнага ўзгадаваньня“ і замест памагчы хлапцу ды падбадзёрыць яго, адмаўляе сьпярша ў выдачы пасьведчаньня.

Пасьля ідзе да бацькоў хлапца ды намоўляе іх, каб яны лепш адалі свайго сына ў польскую, а не ў беларускую гімназію. Калі-ж і гэтая місія не ўдалася, выдае ўрэшце хлапцу жаданае пасьведчаньне, але навет не глядзіць, злуе і не размаўляе з ім.

І вось гэты хлапец, не разумеючы, што сталася, шчыра й прастадушна так канчае сваю пісьменную экзаменацыйную працу. „... і pan kierownik, który zawsze był taki dobry dla mnie za to, że ja się dobrze uczyłem, nie zechciał ze mną rozmawiać i był taki zły. I co ja jemu złego zrobiłem?“

Так, чыстая, нявінная маладая душа сёньня задае сабе пытаньне: „Што я п. кіраўніку дрэннага зрабіў, што ён не хацеў, каб я ехаў у сваю родную гімназію?“ а заўтра?... — Калі ён падрасьце ды спаткаецца ў штодзенным жыцьці з сотнямі падобных інцыдэнтаў, ці-ж ён ня станецца „дзяржаўна“ узгадаваным? Бо-ж хто яму дасьць адказ на пастаўленае пытаньне?

Дзецям трэба гаварыць праўду, вучыцель ня мае права лгаць, але-ж праўдзівы адказ будзе антыдзяржаўным, бо-ж дзіця ня зможа аддзяліць гэтага свайга кіраўніка ад кіраўнікоў іншых польскіх школаў — яно зробіць увагульненьне і такім чынам станецца ворагам самой Дзяржавы.

Колькі-ж трэба будзе ў гімназіі патраціць высілку, каб пераканаць дзіця, што ня ўсе польскія вучыцялі, ня ўсе палякі такія, як гэны ягоны кіраўнік! Ды пытаньне, ці ўдасцца пераканаць яго пры найбольшым высілку, бо-ж і ў штодзенным жыцьці, пэўня, спаткаецца з яшчэ больш пікантнымі „красачкамі“.

Гэты маленькі, але вельмі яркі, прыклад хіба зьяўляецца найлепшым доказам шкоднасьці такое „палітыкі“ ў школе. Замест жаданае „полёнізацыі“ ў канцы выходзіць толькі „комунізацыя“, а каб школа імкнулася ўзгадаваць „чалавека“ ў поўным, высокім значэньні гэтага слова, дык мэты, пэўня, дапяла-б, бо дала-б беларускаму грамадзянству нацыянальна сьвядомага чалавека, а Дзяржаве—актыўна-лёяльнага грамадзяніна, сьвядомага ня толькі сваіх правоў, але й абавязкаў адносна Дзяржавы.

Пара урэшце зразумець, што беларускай народнай хвалі, беларускага ўсьведамленьня нельга ўжо ані стрымаць, ані спыніць.

Не тармазіць,а памагчы трэба Віл. Беларускай Дзяржаўнай гімназіі выбраць найлепшых, найбольш здольных кандыдатаў у І клясу, бо-ж адна беларуская гімназія на ўсю Польшчу хіба не зашмат.

(—) *Эра.*

## З беларускага жыцьця заграніцай.

### Беларуская справа ў Латвіі.

Паход процiў беларускага культурна-нацыянальнага жыцьця ў Латвіі не зьяўляецца нечым новым. Існаваў ён ужо даўно, толькі палітычныя абставіны не дазвалялі яму падняцца на паверхню дзяржаўнага жыцьця Латвіі.

Усплыў ён на хвіліну яшчэ ў 1932 г., калі міністэрства асьветы, апіраючыся на ўсялякіх беспадстаўных паліцыйных даносах, манілася зачыніць адзіную беларускую гімназію ў Дзьвінску. І толькі дзякуючы стараньням і салідарнай акцыі беларускага грамадзянства ў Латвіі удалося гэтую пляцоўку ўратаваць. Відаць, як кажуць, часы яшчэ тагды не дасьпелі і таму толькі вузкі нацыяналізм павінен быў адыйсьці з форуму офіцыяльнай палітыкі Латвіі.

Сяньня абставіны зьмяніліся і таму нічога дзіўнага, што справа гімназіі сталася ізноў актуальнай. *Паводле атрыманай весткі, 13 г. м. габінэт Міністраў у Латвіі пастанавіў зачыніць Беларускую Дзяржаўную Гімназію ў Дзьвінску.* Чым абаснована гэтая пастанова, нарушаючая найэлемэнтарнейшае права беларусаў, права да роднае школы,—нам ня ведама. Фактам зьяўляецца толькі тое, што ўрад, ня гледзячы на існуючыя законы, пастанавіў канчальна зьлiквідаваць усякія праявы беларускасьці, бо-ж ясна, што з мамэнтам зачыненьня гімназіі ўсякае культурна-нацыянальнае жыцьцё сярод латвійскіх беларусаў у недалёкай будучыне зусім замрэ...

Ці ўдасца цяпер ізноў уратаваць гімназію?—вельмі сумліваемся. Ваеннае становішча ў Латвіі, якое трывае ўжо больш году, бо ад траўня 1934 г., зьяўляецца страшэннаю перашкодаю ў гэтым змаганьні.

### Партызанскія рухі ў БССР.

Менская „Звезда“ паведамляе: На абшары трох раёнаў савецкай Беларусі — Бешанковіцкага, Сірацінскага і Ушыцкага,— дзейнічала ваарўжоная рэвольвэрамі і т. зв. абразанкамі група, якая рабіла напады на калгасы. У вёсцы Барсучына, Сірацінскага раёну, сябры гэтае групы Косік і Нядбайскі выстрэламі з нагана цяжка ранілі поўнамоцніка Сірацінскага раённага партыйнага камітэту.

Выяздная сэсія менскага савецкага вярхоўнага суду БССР, разгледзіўшы справу ўспомненых партызанаў, прысудзіла: Пятра Косіка і Нядбайскага расстраляць, а Васіля Ляха, Грыгора Голалоба, Язэпа Буевіча, Браніслава Буевіча і некалькі іншых да ссылкі ў концэнтрацыйныя лагеры.

Па словам тэй-жа газэты, у лесе каля вёскі Зарэчча, Парэцкага раёну, знойдзены быў цяжка ранены сябра Дуброўскай вясковай рады Сямён Кохта. Ад атрыманых ран Кохта памёр. Ен быў адным з самых актыўных сяброў вясковай рады і ў працягу васьмі гадоў „вёў бязжаласную барацьбу з кулацкімі элемэнтамі, каторыя пастанавілі яму памсьціць“.

# З царкоўнага жыцьця.

## Віленская епархія.

У Віленскай епархіі да гэтага часу пануе ўсьцяж антаганізм.

Прычынай гэнага — змаганьне невялікай групы актыўных расейскіх палітыкаў з беларускім праваслаўным грамадзянствам. Белар. царкоўнае грамадзянства напружвае ўсе свае сілы, каб супольна з народам і духавенствам уберагчы Царкву ад развалу.

Аднак на дарозе зьдзейсьненьня гэных імкненьняў стаяць расейскія палітыкі, якія маюць на мэце праз Царкву правесьці ў жыцьцё свае нацыянальныя пастуляты. Фактычная ўлада ў Віленскай епархіі знаходзіцца ў руках расейцаў. *Бліжэйшае акружэньне архіеп. Хвядоса выключна расейскае.* Тэхнічны апарат духоўнай кансысторыі — расейцы. Дзелаводзтва ў кансысторыі, зносіны епархіі з духавенствам — ўсё гэта вядзецца ў расейскай мове.

Пропаведзі ў Вільні, ў адвеку беларускіх царквох, гаворацца выключна ў расейскай мове. У гэтым годзе нават звычайная традыцыя ня была захована: *ў беларускай Віленскай епархіі на Вялік дзень, ў архіерэйскім Саборы, сьв. Духавым Манастыры, эвангельле пабеларуску ня чыталася.* Сьведамая беларуская духавенства знаходзіцца ў загоне і параскідана па самых убогіх прыходах. — Беларускі народ па сваёй натуры містычны, гэта — народ богашукацель. У апошні час ён нацыянальна ўсьведамлены, пад націскам жыцьцёвых і палітычных расчараваньняў, стараўся знайсьці апору і падтрыманьне ў тых, якія павінны былі быць яго духовымі правадырамі, але спаткаўся з расейскім шовінізмам і з пагардаю да таго, што ён лічыў сваім „Сьвятое Сьвятых",—да ўсяго роднага беларускага. Рэакцыяй на гэта было, што адна частка кінулася ў рацыяналізм з яго бязбожжам, другая — ў сэктанства.

Як відаць са спаведных ведамасьцяў, толькі 25 проц. бывае ў споведзі.

Такі стан рэчаў павінен быў зьвярнуць ўвагу тых, хто паклікаены кіраваць епархіяй. Але архіеп. Хвядос, чалавек стары і хворы, які знаходзіцца пад уплывам свайго акружэньня, рэагаваць на гэныя сумныя праявы нашага царкоўнага жыцьця *ўжо ня можа.* Ня раз ужо падымалася пытаньне ў беларускай і нават ў польскай прэсэ аб вызначэньні ў Вільні Вікарнага Епіскапа, які-б абнавіў, зрэфармаваў і аздаравіў нашае царкоўнае жыцьцё.

Але нажаль гэныя проекты заўсёды знаходзілі спраціў з боку правячага архіерэя, магчыма пад ўплывам яго бліжэйшага акружэньня. Бо вызначэньне вікарнага епіскапа, а да таго яшчэ чалавека маладога, энэргічнага, магло-бы пазбавіць улады тых; хто цяпер *фактычна* кіруе епархіяй. Пры тым пры вызначэньні вікарнага епіскапа трэба было-бы лічыцца ўжо і з паглядамі белар. царкоўнага грамадзянства. Абнавіць жыцьцё ў нашай епархіі, падняць рэлігійнасьць ў народзе, і такім чынам ўратаваць Царкву ад развалу, мог-бы толькі той, хто зразумеў-бы, што Віленская епархія—гэта епархія *беларуская,* і што Царква не павінна карыстацца расейскімі палітыкамі для іх нацыянальных імкненьняў і мэтаў. У апошні час ходзяць чуткі, што быццам вышэйшая духоўная ўлада нарэшце рашыла вызначыць нам вікарнага епіскапа. Белар. праваслаўнае грамадзянства шчыра прывітала-б вікарнага епіскапа і шчыра дапамагло-б яму ў яго цяжкай і адказнай працы. Але-ж такім вікарным епіскапам павінен, зразумела, быць толькі беларус, які добра ведае душу нашага народу.

Тады наш прастарэлы архіпастыр, змучаны працай, мог-бы адпачыць і ў спакою маліцца за сваіх пасомых.

А новы яго памоцнік, карыстаючыся з радаў свайго архіепіскапа і апіраючыся на веруючых беларусаў, падняў-бы рэлігійнасьць у народзе і ўратаваў-бы Царкву ад заняпаду.

*У. Б.*

# Царызм загінуў—імпэрыялізм астаўся...

Лішняю справаю было-б даказваць, што расейскае вяліка дзяржайніцтва аджыло свой век у СССР.

Таксама лішнім было-б спрачацца з тым, што маскалі на эміграцыі чаго-небудзь навучыліся ў сэнсе прызнаньня права на поўнае самаазначэньне хоць-бы некаторых народаў, выразна выявіўшых сваю волю да самастойнага жыцьця бяз ,,высокае" маскоўскае апекі.

Для кожнага расейскага эмігранта дасюль яшчэ няясна, што башкір, грузін, крымскі або казанскі татарын і г. д., і г. д. — гэта *ня „русскій"*.

Аб нас і украінцах маскалі ў эміграцыі, як і ў кожным меншасьцёвым згрупаваньні сваім у тэй ці іншай новапаўстаўшай дзяржаве, нават і слухаць ня хочуць. Для іх мы з украінцамі — гэта ўсё тыя-ж самыя ,,*русскіе*" людзі, прычым для украінцаў расейцы маюць нават спэцыяльны вялікадзяржаўніцкі тэрмін ,,*малароссы*". Маскалі, бач, ,,*россы*" вялікія, а ёсьць яшчэ іншыя — малыя.

І думаючы гэтак, маскалі пасьлядоўна трымаюцца свае імпэрыялістычна-русіфікатарскае палітыкі, шукаючы сярод усіх народнасьцяў былое расейскае імпэрыі падатнага гною для ,,*единства русской культуры*". У Галіччыне выходзіць масквафільская газэта „Русскій Голос", якая дапісваецца часам да абсурдаў.

У „Родным Краі" ужо з год назад адзначалася нетактоўнасьць гэтых галіцкіх маскалёў, якія ня ведаюць межаў свайму вялікадзяржаўнаму шовінізму. Памірае, напр., беларускі інтэлігент — вучыцель беларускае гімназіі, а гэткі сабе „Русскій Голос" піша, што памёр ...„*русскій человек*".

Расейскае Народнае Аб'яднаньне ў Польшчы і яго маладая генэрацыя «Русское Общество Молодежи» (РОМ) выцягвае лапы па душу беларускага мужыка, лезе на беларускую вёску, каб прыцягнуць у свае рады нашае сялянства

Ня так даўно можна было чытаць у віленскай газэце „Наше Время", што ў аднэй з вёсак каля Горадні закладзены гурток РОМ'у.

Цікава, якіх гэта маладых расейцаў знаходзяць маскалі ў беларускай вёсцы?

Расейцаў яны там ня знойдуць, бо чыстыя расейцы (велікарусы) запраўды ёсьць нават у самой Вільні, але яны розьняцца ад нас моваю і вераю. Кожны ведае, што на беларускіх землях у Польшчы жывуць у некатарай колькасьці стараверы. Ніхто ня будзе пярэчыць праву расейцаў на прыцягваньне ў свае рады гэтага стараверскага ,,*крестьянства*" ды часткаю можа зрусіфікованага мяшчанства.

Але рашучы адпор трэба даць спробам расейцаў уцягнуць у свае арганізацыі нашае беларускае сялянства, спробам ўратаваць расейшчыну ў праваслаўнай царкве і ўва ўсіх іншых праявах жыцьця, дзе расейцы хочуць карыстацца намі, як гноем для ,,*великой русской культуры*".

У летнюю пару сёлета актыўныя адзінкі з расейскага „общества" зьбіраюцца камандзіраваць з Вільні на... правінцыю драматычную расейскую трупу, зусім забываючыся, што „правінцыя" гэта вельмі далёка ад Тулы і Калугі.

Ужо нават польскія газэты пішуць, што бадзячыя расейскія тэатры, стаўляючы па мястэчках і гарадох Наваградчыны якую-небудзь „*Месть донского казака*", робяць часам неблагія зборы...

Беларусам пара падумаць аб рашучым байкоце падобных тэатраў, якія, пад ласкаю культурнае працы на правінцыі, падносяць беларускаму селяніну як духовую, страву, свой маскоўскі „*лубок*" ды „*халтуру*".

Царызм маскоўскі загінуў, але засталося часам у галовах нават некаторых змаскалелых беларусаў маскоўскае вяліка-дзяржаўніцтва, якое ніколі не памірыцца з нашым існаваньнем, як асобнага народу. Гэта трэба помніць і з кожнаю спробаю перавярнуць беларускую душу на маскоўскі лад рашуча бароцца.

# На жонку Леніна наложаны хатні арышт.

Паводле вестак з Бэрліна, чуткі аб арышце ўдавы Леніна — Надзеі Крупскай — ня ўціхаюць у Маскве.

Як прычыну арышту, называюць заступніцтва яе за опозыцыянэраў, як раней сасланых—Зіноўева і Каменева, — так сама і за Енукідзе.

Крупская нібыто даўно падазравалася ў сымпатыях да опозыцыі, але ад арышту яе бальшавіцкія вярхі ўстрымліваліся толькі таму, што імя яе неразрывальна зьвязана з імем Леніна і арышт мог выклікаць сур'ёзныя ўнутрыпартыйныя комплікацыі.

У сувязі з гэтымі чуткамі асаблівае значэньне жыхары прыдаюць заявам бальшавіцкіх газэт, папярэдзіўшым выключэньне з партыі Енукідзе, аб тым, што ўлада ня будзе лічыцца з імёнамі, калі справа йдзе аб выключэньні з партыйных радоў раскладзенага элемэнту. У гэтай заяве бачаць падрыхтоўку грунту для арышту Крупскай ды іншых выдатных партыйцаў і апраўданьне роспуску „Таварыства старых бальшавікоў", узгадованых па чыста ленінскай праграме, якая даўно перакручана Сталіным, на што Крупская неаднакроць рэагавала ў гутарках з партыйцамі і цяперашнімі опозыцыянэрамі.

Кажуць, што Крупская сур'ёзна хворая і знаходзіцца пад хатнім арыштам. У яе кватэры і каля дому, дзе яна жыве, дзяжураць агенты ГПУ.

**Бажэнаў.**

# Шустрая бабулька.

**Камэдыя ў I акце.**

Пераклад з расейскага *В. Г.*

(Гл. № 15 „Роднага Краю").

ЗЬЯВА IX.

Аляксандр Пятровіч, а потым Глаша.

Ал. Пятр. Ах, які я задаволены. Як задаволены. Ніколі я не спадзяваўся, што ўсё так хутка. Але-ж дзе Глаша? Ці ведае яна пра наша шчасьце.

Глаша. (уваходзіць) З гэтае мінуты мы з вамі ніколі не разлучымся. Ах, як гэта добра. Якая добрая бабулька. Як яна мяне любіць!

Ал. Пятр. Праўда, што добрая: яна нас ашчасьлівіла, му будзем жыць разам і вы будзеце маёю жонкаю.

Глаша. Што вы кажаце?

Ал. Пятр. Але, але я буду вашым мужам. Ці ёсьць хто колечы шчасьлівейшы на сьвеце.

Глаша. Не, мы толькі разам будзем жыць, але вашаю жонкаю я ня буду.

Ал. Пятр. Як ня будзеце. Што гэта азначае? Калі вы будзеце жыць разам са мною, дык і мусіце быць маёй жонкаю.

Глаша. Дзеля чаго?

Ал. Пятр. Ды інакш ня можна.

Глаша. Чаму?

Ал. Пятр. Што вы кажаце. Я вас не разумею.

Глаша. Гэта вельмі проста... бабулька прышла да мяне і казала, што мне купіць пярсьцёнак, кольчыкі і ўсё, усё... Яна цяпер такая вясёлая, калі трэці раз выходзіць замуж.

Ал. Пятр. Як выходзіць замуж? Хто-ж гэта такі?

Глаша. Як хто? Бабулька! Быццам вы ня ведаеце.

Ал. Пятр. Першы раз чую. За каго-ж гэта?

Глаша. Як за каго? За вашага татку.

Ал. Пятр. Што вы кажаце? Вы нешта выдумалі.

Глаша. Але, але, яна мне сказала, што ваш татка пасватаўся да яе; сказала, што вы будзеце жыць разам з намі; а галоўнае, яна дазволіла мне цяпер прыбрацца ў гэтую модную сукенку.

Ал. Пятр. Зьлітуйцеся, але-ж тут, а ні на грош няма развагі.

Глаша. Ня ведаю, але гэта толькі праўда.

Ал. Пятр. (Сядае). Божа мой. Які я няшчасны.

Глаша. Што гэта з вамі?!

Ал. Пятр. Ах у мяне ў галаве круціцца.

Глаша. Што гэта? Ці ня прыбіраецеся вы самлець? Вось я сёньня хацела ўпасьці дык не ўдалося: бабулька пырснула на мяне вадою, я і засьмяялася... Супакойцеся. Падумайце, што мы будзем жыць разам, вы будзеце памагаць мне адрабляць лекцыі, будзем гуляць, сьмяяцца... Ах, як нам будзе весела.

Ал. Пятр. Як-жа нам ня плакаць, калі мы ня можам цяпер ажаніцца.

Глаша. Чаму ня можаш? Няхай толькі бабулька вазьме шлюб, а пасьля і мы згуляем вясельле.

Ал. Пятр. Хіба-ж гэта магчыма? (устае)

Глаша. Напэўна магчыма. Я вам даю слова, што апрача вас ні за каго ня выйду.

Ал. Пятр. О, Божа-ж мой, вы нічога яшчэ не разумееце! Пасьля вясельля я буду сынам вашага дзеда.

Глаша. Як? Вы будзеце маім таткай? Мой татка быў сынам майго дзеда... Ах, як гэта прыемна!

Ал. Пятр. Я ня ведаю, што вас так радуе.

Глаша. А як-жа. Гэта-ж мы з вамі разам будзем жыць, спацыраваць...

Ал. Пятр. Але зразумейце, што ўсё-ж такі буду вашым прыяцелем, а ня мужам.

Глаша. Ці-ж гэта ня ўсё роўна?

Ал. Пятр. Не, вялікая розьніца.

Глаша. Якая-ж розьніца?

Ал. Пятр. Не малая.

Глаша. Скажэце ў чым яна.

Ал. Пятр. Ува ўсім.

Глаша. Але-ж якая, якая?

Ал. Пятр. Спытайцеся ў бабулькі аб гэтым...

Глаша. Вы мне пра гэта раскажэце. Вам гэта ляпей трэба ведаць.

Ал. Пятр. Ну, калі праўда не маніце, я магу вам адказаць:

З прыяцелямі кабета гуляе
У кожнай ёсьць іх каля шасьці,
А муж адзін; часта бывае
Вельмі трудна яго знайсьці.
Сябрам ня вельмі быць прыгожа,
А мужам быць мілей ўсяго.
Ня ўсё з сябрамі рабіць прыгожа
Ня брыдка з мужам нічога.

## Зямельны падатак у СССР.

Апошнім часам „Правда“ зьмясьціла дэкрэт аб зямельным падатку на 1935 год.

Для калгасьнікаў (сялян) падатак гэты ня зьменены і аднолькавы для ўсіх.

Сяляне на самастойных гаспадарках плацяць ад 10 да 40 рублёў у год. Даходы ад пабочнае працы, ападаткованыя ад 50 да 100% чыстага даходу.

Работнікі лясныя і тыя, што працуюць на тарфяніках, плацяць 20% сваіх заработкаў, тыя, хто мае даходы з хатняе працы, плацяць зямельны падатак ад 40 да 80% большы за тых, хто гэтага ня робіць.

Самастойныя гаспадары плацяць на 25 процантаў большы падатак, як гаспадары ў колектывах, ды апрача гэтага падатак ад кожнае штукі жывога інвэнтару: ад каровы і каня 17 рублёў, ад авечкі ці казы 15 руб., за 1 гэктар гароду 145 руб. і за 1 гэктар вінаградніку 280 рублёў у год.

## Ці выйдзе Італія з Лігі Нацый?

Блізкая да італьянскага міністэрства замежных справаў газэта „Аффары Эстэры“ дае зразумець, што італьянскі ўрад ня прыйме ўдзелу ў сэсіі Рады Лігі Нацый у жніўні, калі да гэтага часу ня будзе абясьпечана адпаведнае яго дамаганьням аднолаўньне да абісынскага канфлікту.

Газэта заяўляе, што дзейнасьць Лігі Нацый разьвіваецца ў напрамку, зусім процілеглым намерам, існаваўшым пры аснаваньні Лігі. З артыкулаў статуту Лігі Нацый толькі тыя фактычна праводзіліся ў жыцьцё, каторыя дапамагалі некаторым дзяржавам захаваць сваё панаваньне. Дзяржавы, якія лічылі гэтыя пастанаўленьні для сябе путамі, выйшлі з Лігі Нацый, як з вастрога. Так паступілі Нямеччына, Японія і Бразылія.

„Італія сяньня стаіць на парозе Лігі Нацый,— кажа газэта. — Не падлягае аднак сумліву, што калі яшчэ адна дзяржава адвернецца сьпіною да Жэнэвы, то Ліга Нацый акажацца нябошчыкам“.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## З правінцыі.

**(Вёска Гулі, Пастаўскага пав.).**

Вёска нашая досіць вялікая. Аж 150 гаспадароў з сем'ямі мусяць здабываць для сябе пражыцьцё працаю ўласных рук з вузкага загону роднага поля.

А год ад году гэтыя загоны робяцца меншымі і вузейшамі, так што толькі межы і разоры штораз часьцей ды часьцей разразаюць вузкія палоскі.

Кепскі гэты наш беларускі звычай, што, як толькі браты падрастуць, адразу пачынаюць дзяліцца і як падзеляць на тры, ці чатыры часьці і так слабую бацькаўскую гаспадарку, то ні воднаму брату няма жыцьця, робяцца ўсе батракамі.

Зразумелі нашы сяляне, што на такіх вузкіх палосках вельмі трудна гаспадарыць і захацелі падзяліць вёску на хутары. У 1928 годзе падалі просьбу да Акружнага земскага аддзелу, а пасьля навет аб тым і забыліся, бо думалі, што нічога з гэтага ня выйдзе. Тым часам ў тры гады пазьней у 1931 годзе прыслалі да нас двух каморнікаў і за год часу вёскі як і ня было. Сяляне з праўдзівым запалам і новай энэргіяй узяліся пераносіць свое будынкі і заводзіць гаспадарку на „калёніях“. Трэба сказаць, што большасьць гаспадароў, якія маюць ад 5 да 10 гэктараў, з хутароў вельмі задаволена, толькі малазямельныя на хутары наракаюць, бо навет аднаго каня і каровы ня могуць утрымаць на сваей гаспадарцы, і гэта вельмі важная балячка жыцьця на хутарох для малазямельных.

Потым ёсьць яшчэ і другая страта і ня выгода такога жыцьця і хто знае, ці не найбольшая, бо грамадзкага характару. Вёска, як вядома, зьяўляецца ў сягоньняшнім часе для нашага сялянства адзінай школай грамадзкага жыцьця, той важнай крыніцай і сторажам народнай традыцыі, дзе перахоўваюцца ўсе нашыя народныя звычаі і песьні.

Лягчэй бывала калісь разам сабрацца пагаварыць, парадзіцца, а часамі прачытаць газэту, ці кніжку. А цяпер на хутарох людзі пачынаюць паволі адвыкаць ад грамамадзкага жыцьця і проста дзічэць, заседзіўшыся на полі

*У. Б.*

**Пашырайце нашу газэту.**

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— 26 чэрвеня гэтага году ад гадзіны паловы чацьвертай да чацьвертай папалудні на віленскай радыястанцыі пяяў беларускі хор пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы. Віленская радыястанцыя перадавала пяяньне на ўсе іншыя радыястанцыі ў Польшчы. Салёвыя песьні прапяяла гр. К. Шырма, акампанаваў на раялю праф. К. Галкоўскі, выясьненьні аб зьмесьце і характары песьняў даваў кіраўнік музычнага аддзелу вілен. радыястанцыі гр. Вэнслаўскі.

На гэты раз хор і салісты пялі бяседныя, вясельныя і ваяцкія беларускія песьні. Былі прапяяны такія песьні: 1) „Ой ляцелі гусаньні“, гармонізацыя Рагоўскага, вельмі прыгожая мэлёдыйная песьня, добра характэрызуючая настрой маладое беларускае жанчыны, прызвычаенай да пашанаваньня традыцыяў сямейнага жыцьця 2) „Ды хто па цёмным лесе гукае“—гармонізацыя праф. К. Галкоўскага, нязвычайна прыгожая беларуская песьня, якую пяюць на вясельлі маладой-сіраце; мала ў якіх песьнях выяўляецца так яскрава глыбокі сум дзяцей па памёршых без пары бацькох, як у гэтай песьні. 3) „У чыстым полі каліна стаіць“— гарм. Уладзімерскага (памёршага ў гэтым годзе), прыгожая песьня, добра выяўляючая настрой маладога беларускага жаўнера. 4) „Чорны вочкі пара спаць“—гар. праф. К. Галкоўскага, песьня таксама аб жыцьці і настрою беларускага жаўнера, вымагаючая, што праўда дзеля добрага выкананьня вялікага хору, але вельмі музыкальная і гучная. Вялікі жыцьцёвы зьмест крыецца і ў солёвых песьнях, так добра выкананых гр. К. Шырмай. Таксама і хор выканаў усе песьні вельмі добра.

Як даведваемся, хор меўся прапяяць яшчэ некалькі народных песьняў, але абмяжаваны час ня даў магчымасьці гэтага зрабіць. Вітаючы ініцыятыву віленскай радыястанцыі хоць ад часу да часу даваць месца і беларускай песьні, выказваем пажаданьні, каб гэта было сталым, прынамся раз калі не на тыдзень, то хоць на месяц, бо-ж гэтак польскае грамадзянства хоць крыху пазнаёміцца з беларускім жыцьцём, з якім дасюль яно было вельмі мала знаёма.

Беларуская народная песьня, як ведама, мае ў сабе вялікія багацьці, якія дасюль вельмі мала выкарыстаны.

*С.*

## У Вільні

— Ад дня 29 чэрвеня да 14 ліпня г. г. адбудуцца ў Вільні Міжнародныя Футраныя Таргі. Асобы, якія захочуць прыехаць у гэтым часе на Таргі, атрымаюць чыгункавыя зьніжкі.

— *„Сьвята Мора“ у Вільні.* Камітэт „Сьвята Мора“ паведамляе, што 29 чэрвеня г. г. Вільня, як і ўся Польшча, ўрачыста будзе абходзіць „Сьвята Мора“.

У гэты дзень у Вільні адбудзецца шмат урачыстасьцяў, зьвязаных з гэтым сьвятам.

## Заграніцай.

### Новы урад у Югаславіі.

У Югаславіі ўтвораны новы ўрад, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі ня толькі кіруючай да гэтага часу партыі, але і прадстаўнікі дасюлешняй апазыцыі. Урад складаецца з радыкалаў, клерыкалаў, славенцаў і мусульманаў. Няма ў ім прадстаўніка харватаў, але пасьля гутаркі павадыра харватаў д-ра Мачэка з рэгентам князем Паўлам, харваты ўстрымаюцца ад вострай апазыцыі да новага ўраду і будуць чакаць вырашэньня харвацкага пытаньня.

З гэтага відаць, што кіраўнікі дзяржавай у Югаславіі паступова пераходзяць да больш дэмакратычных формаў кіраваньня дзяржавай.

### Адгалоскі ангельска-нямецк. паразуменьня.

Ангельска-нямецкае паразуменьне ў справе будаваньня флёту выклікала трывогу ў першую чаргу ў Францыі ды Італіі. Каб супакоіць урады Францыі ды Італіі, ангельскі урад зараз-жа пасьля паразуменьня выправіў сьпярша ў Францыю, а потым у Італію свайго міністра Ідэна. Аднак, як пішуць газэты, тлумачэньні Ідэна не пераканалі французскага ўраду ў патрэбе ды неабходнасьці марскога ангельска-нямецкага паразуменьня, якое, па думцы францускага ўраду, нарушае Вэрсальскі трактат. З Парыжу Ідэн езьдзіў у Рым, дзе з гутарак з Мусолінім даведаўся аб паглядах італьянскага ўраду на марское паразуменьне і на іншыя пытаньні эўрапейскай палітыкі ды на абісінскае пытаньне.

У адказ на пратэст Францыі супроць павялічэньня флёту Нямеччынай ангельскі урад запрапа-

---

Глаша: Дык гэта ня ўсё роўна... Як шкада... Ах, якая я дурная! Дык мяне бабулька абманула. Яна на злосьць нам выходзіць замуж. Якая-ж яна нядобрая. Не дарма-ж яна мне дала гэтую сукенку і іншае. Ідзем хутчэй пажэнімся ўперад за іх, а яны застануцца з вялікім носам. Ну крадзеце мяне.

Ал. Пятр. Не, не. Гэта ня вельмі добра, трэба іначай перашкодзіць яе вясельлю.

Глаша. Як, кажэце хутчэй.

Ал. Пятр. Ведаю, ужо ведаю.

Глаша. Ня можа быць. Як-жа гэта?

Ал. Пятр. Я напішу ёй пісьмо ад вашага дзеда, у каторым ён будзе пісаць, што ён жывы, што зараз будзе тут. Вы аддасьцё гэта пісьмо і скажаце, што атрымалі яго з пошты: тады яе шлюб будзе немагчымы.

Глаша. Як гэта добра!

Ал. Пятр. Адна бяда, што ня ведаю характару пісьма вашага дзеда. Каб яна не дагадалася, ад каго гэта.

Глаша. Не, не. Яна дрэнна бачыць, не разьбярэ; я ёй заўсёды чытаю пісьмы.

Ал. Пятр. (Сядае). Вельмі добра... Хутчэй за працу. Талькі не перашкаджайце мне.

Глаша. Які ён хітры. Пачакайце, бабулька, мы вас перахітруем. Вы нас лічыце за дзяцей, думаеце, што нас, як дзяцей, можна абмануць, але мы вам пакажам. Якая, бабулька, два мужа мела, а цяпер яшчэ за трэцяга хоча выйсьці. Не. Гэта ўжо стары і ня смачны жарт. Мы вам гэтага не пазволім. Ах, як я прыгожая буду ў шлюбнай сукенцы. Як я буду скакаць на сваём вясельлі... Ніводнага вальса не прапушчу.

Ал. Пятр. Ну, ужо гатовы... Але калі яна яшчэ не захоча, каб мы пажаніліся...

Глаша. Тады... Вы мяне ўкрадзеце ноччу праз вакно на вяровачных драбінах, абавязкава ўкрадзеце. Для вас я згаджуся на ўсякія ахвяры, нікога і нічога не баюся. На бабульку ня буду зважаць.

Ал. Пятр. Ах, мая мілая, Глаша, цяпер вы мне яшчэ больш падабаецеся. (абнімае і цалуе яе ў руку).

ЗЬЯВА X.

Тыя самыя і Ключкіна.

Глаша. (адскочыла ад яго). Ах бабулька. Вось трапіла.

Ал. Пятр. Будзе гісторыя.

Ключк. Чаго вы спалохаліся, мае дзеці. Чаму вы разьбегліся па кутох. Наадварот, цяпер вам і трэба быць заўсёды разам, кахацца.

Ал. Пятр. Чаму?

Ключ. Ну, як брат і сястра.

Ал. Пятр. (сумна). Але... як брат...

Глаша. (таксама) Як сястра...

Ключ. Вы цяпер ужо свае. Ну, пацалуй-жа яе, Саша.

Ал. Пятр. Як, пры вас?

Ключ. Ведама, чаго-ж сароміцца. Нявінны пацалунак нікога не абразіць.

Ал. Пятр. Так і быць... з дазволу старшых. (цалуе.

Ключ. А ты, васпанна, чаму яго не пацалуеш.

Глаша. Мне пры вас сорамна.

Ключ. Ну, а бяз мяне?

Глаша. Бяз вас іншая справа.

Ключ. Ах, якая ты дурненькая. Кажуць табе пацалуй яго — я гэтага жадаю.

Глаша. Ну для вас, бабулька, так і быць (цалуе). Гэта мне бабулька загадала— бачыце якая яна добрая...

Ал. Пятр. Але, мы павінны скарыстаць з яе ласкі (цалуюцца, Глаша выходзіць).

Ключ. Як мне добра на іх глядзець. Зусім, як галубкі... Табе татка, ужо, мусі, ўсё сказаў.

Ал. Пятр. Але, я ўсё ведаю.

Ключ. Вось, я думаю, ты зьдзіўіўся і абрадаваўся.

Ал. Пятр. Але, вельмі зьдзівіўся.

Ключ. І ведама абрадаваўся — я ў гэтым пэўная. Пацалуй мяне за гэта.

Ал. Пятр. (Ціха). Гэта, дык ня вельмі патрэбна. Вы надта добрыя, мілая бабулька... не выбачце... матачка...

Ключ. Але, але, я заступаю табе матку і пастараюся збудаваць тваё шчасьце, але ўперад трэба думаць пра сваё.

Ал. Пятр. Але, сваё, ведама, што вам бліжэй.

Ключ. Пачакай, пачакай і тваё недалёка.

Ал. Пятр. (дае знак Глашы) Але я таксама гэта думаю.

Глаша. (уваходзіць з пісьмом) Вось, бабулька, цяпер прынясьлі Вам з пошты пісьмо.

Ключ. Пісьмо? Мне? Ад каго-ж гэта?

Глаша. Ня ведаю.

Ключ. Ад каго гэта можа быць... Якая злосьць нічога ня бачу. Вочы ў мяне што дзень горш бачаць. Прачытай, дзіця.

(Працяг будзе).

# Гаспадарчы аддзел.

## Вынішчайце павіліку.

Незадоўга перад першым пакосам, а часам і раней часта зьяўляецца на канюшыне асобны паразыт, які завецца павілікаю. Павіліка абвіваецца навакол сьцябла канюшыны, прысмоктваецца і жывіцца яе сокамі. Нападзеная павілікай канюшына паступова слабее, аж нарэшце цалком гіне.

Месца, захопленае павілікай, трэба выкасіць, скошанае вынясьці і спаліць, а на выкашанае месца насыпаць сечкі, абліць газаю і таксама запаліць, а пасьля, даўшы вапны, глебу глыбака перакапаць. Нельга пакідаць ніводнага кавалачка павілікі, бо яна можа разрастацца і з сьцябла.

Есьць яшчэ іншы, праўда, крыху даражэйшы спасаб нішчэньня павілікі. Палягае ён на тым, што захопленыя павілікай месцы скрапляюцца росчынам сярчану жалеза (жалезны купарвас).

Прыгатаўляецца росчын гэты наступна: на шэсьць літраў вады даецца адзін кілёграм сярчану жалеза. Сярчан жалеза можа нішчыць павіліку, покуль яна яшчэ ня выдала насеньня, бо на насеньне ён ня дзеіць.

## Сушэньне сена.

У папярэднім нумары мы пісалі, што з касьбою ня можна пазьніцца, што касіць траву найлепей, калі яна пачынае цьвісьці. Аднак усяго гэтага мала. Поруч з парою касьбы на якасьць атрыманага сена мае вялікі ўплыў спосаб сушкі. Сена дрэнна высушанае нічога ня варта, і дзеля гэтага сушыць яго трэба вельмі старанна.

Сушэньне канюшыны даволі труднае дзеля таго, што далікатныя лісточкі і галоўкі, а яны маюць і найбольшую вартасьць, вельмі лёгка абіваюцца. Каб унікнуць лішняга абіваньня лісточкаў, ня трэба канюшыну многа варочаць.

Адзін з добрых і пэўных спосабаў сушэньня канюшыны наступны: скошаную і правяўшую канюшыну (звычайна на другі дзень пасьля касьбы) трэба складаць у маленькія капцы; капцы павінны быць пірамідальныя і трава ў сярэдзіне іх не павінна быць сьцісьненай: вяршкі капцоў, каб яны не раскідаліся, трэба абвязваць 2—3-ма сьцеблямі канюшыны. Перад звозкаю, капцы гэтыя трэба павярнуць і такім чынам, каб аснова іх, якая была пры зямлі, была на пэўны час зьвернена да сонца. Найлепшым-жа спосабам сушэньня канюшыны ёсьць сушэньне яе на астрожках, пірамідах і азяродах.

Сушэньне сена мурожнага або балотнага лягчэйшае чым сушэньне канюшыны, аднак і тут патрэбна ня менш развагі і стараньня. Галоўная нашая ўвага павінна быць зьвернена на тое, каб на сухое, або дасыхаючае сена ня ліў дождж, а дзеля таго, калі пагода трывае з сушэньнем сена трэба сьпяшацца, як мага. Дождж, падаючы на падсохшае сена, выпалосквае з яго найпажыўнейшыя часткі. Нападаюць тагды на сена плесьні і бактэрыі, што вядзе за сабою няўхільную страту цукраў і крахмалу; бялокжа пераходзіць у формы, якія расчыняюцца ў вадзе і такім чынам гінуць. Найважнейшай справай пры сушэньні сена—гэта давясьці яго да такога стану, калі яно можа быць зложана ў вялікія капцы, каторых дождж ня можа так хутка прамачыць, а маленькі дожджык нічога ня шкодзіць, а нават бывае карысны, бо тагды сена атрымлівае добры пах і страўнасьць. Зьвільжанае крыху сена фэрмэнтуе ў капцох, дзякуючы чаму вытвараюцца розныя араматныя алеі, якія пабуджаюць у жывёлы смак.

Найлепшае араматнае сена можна атрымаць наступным спосабам:

Як толькі трава добра правяне (на другі дзень пасьля касьбы) трэба зляжыць яе ў маленькія капцы. Сена ў такіх капцох трохі сагрэецца дзеля таго, што ў ім размножыцца вялікая колькасьць бактэрыяў. Павышэньне тэмпэратуры патрэбна, калі хочам, каб сена мела добры арамат. На другі дзень сена раскідаецца і сушыцца і потым вечарам складаецца ў большыя капцы і так прадаўжаецца, покуль сена належна ня высахне. Калі падсохшае сена ляжыць у капцох дзень ці два, то гэта нічога ня шкодзіць.

Калі ў часе сенакосу падаюць частыя дажджы, або калі прыходзіцца траву сушыць на вільготных сенажацях, то тагды для сушэньня найлепей ужыць астрожкаў, трыногаў, ці пірамідаў.

## Ці варта касіць траву з расою?

Найлягчэй для касца касіць траву, калі з яе яшчэ ня зыйшла раса. Спосаб гэты ў нас практыкуецца вельмі пашырана, а тым часам ён ня зусім добры. У Нямеччыне радзяць касіць траву, калі раса на ёй ужо абсохне, бо такая трава зараз-жа вяне і хутка высыхае.

Зразумела, што чым даўжэй ляжыць скошаная трава жывою, тым горш, бо жывучы яна далей дыхае і расходвае рэзэрвовы матэрыял.

## Сушэньне сена на астрожках і пірамідах.

У мясцовасьцях, дзе часта падаюць дажджы, прыкладам у горах, сушэньне сена адбываецца ня так, як у нас, — проста на сенажаці, але на спэцыяльных прыладах, якія завуцца ў залежнасьці ад іх формы астрожкамі, пірамідамі і т. пад. Спосаб гэты, неабходны ў горах, аказаўся вельмі карысным і на раўнінах.

Наложаная на астрожках ці пірамідах трава прадстаўляе сабою капец, якія мае ў сярэдзіне вольны прастор, да якога свабодна ўваходзіць і выходзіць паветра; апрача таго, такім спосабам уложаная трава не ляжыць беспасьрэдня на зямлі.

Выгады ад такога спосабу сушэньня аграмадныя. Сена пры такім спосабе нічуць не марнуецца. Няма тае пацерухі, якая паўстае пры звычайным спосабе сушэньня, і якую зразумела нельга сабраць. З травы, якая паложана на астрожках ці пірамідах, дажджавая вада зьбячае вельмі шыбка і так-жа шыбка высыхае, бо паветра да такое травы мае як найбольшы доступ. Пры ўжываньні пірамідаў ці астрожкаў на нізкіх і вільготных сенажацях, мы ўнікаем падцяканьня капцоў зьнізу і вялікага спаданьня на сена расы. Апрача таго, калі пры звычайным спосабе сушэньня сена ў капцох прастаіць даўжэйшы час, то пад капцамі трава на сенажаці выпрэе, а пасьля на гэтых месцах лёгка ўкараняецца рознае ліхазельле.

Шматлікія досьледы, праведзеныя над сушэньнем траваў на астрожках і пірамідах паказалі, што гэты спосаб ёсьць найлепшы. Былі такія прыклады, калі сена, сушанае на пірамідах падчас дажджоў, мела толькі дзесятую частку бязвартаснага — сена пабялеўшага, у той час, як сена, сушанае звычайным спосабам пры тых самых умовах, было пабялеўшым напалову.

Там, дзе дзерава лёгка набыць, прыгатаўленьне астрожкаў ці пірамідаў не прадстаўляе вялікіх труднасьцяў. Найпрасьцей астрожкі рабіць з дзерава ялавага. На астрожак адрубаецца яловы вяршок даўшынёю да $2^1/_2$ — 3 мэтраў, востра зачэсваецца сякераю, каб добра лез у зямлю, а бочнае гальлё абцінаецца так, што на самым нізе застаюцца сукі даўжынёю каля палавіны мэтра, а на гары — чверць мэтра. Калі яловага дзерава няма, тагды для гэтае мэты можна ўжыць звычайную жэрдку, ў якой у некаторых месцах трэба пракруціць дзюркі і паўбіваць адпаведнай даўжыні палкі, якія-б стырчэлі на бакі. Яшчэ лепшай прыладай за астрыжкі ёсьць трыногі, ці, як іх яшчэ завуць, піраміды.

## Што рабіць з недасохшай канюшынай?

Бывае часта, што з прычыны дажджоў нельга, належна высушыць канюшыны. У такіх выпадках радзіцца звозіць канюшыну недасушаную, а каб яна не жавалася, трэба яе складаць пластамі ў перамежку з пластамі саломы (салома павінна быць добрая і сухая). Для накладаньня сьціртты бярэцца аднолькавая колькасьць канюшыны і саломы. Апрача таго, карысна канюшыну збольшага пасыпаць жывёльнаю сольлю. Так уложаная канюшына не сапсуецца, а ў дадатак салома набярэцца запаху кянюшыны і са смакам будзе зьядацца жывёлаю. Там, дзе саломы няма, можна недасушаную канюшыну складаць адну, але тагды трэба ёй даць болей солі. Звычайна даецца ад $1^1/_2$ да $2^1/_2$ кілёграмаў солі на 100 кілёграмаў канюшыны. Чым канюшына вільгатнейшая, тым болей трэба даваць солі.

наваў склікаць у канцы году марскую канфэрэнцыю з учасьцем Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны, ды Расеі.

Італьянскі урад, быццам, згаджаецца на такую прапазыцыю, французскі-ж урад, хоча адначасна з марскім пытаньнем разглядаць і іншыя пытаньні міжнароднага характару, як усходні ды наддунайскі пакты. Затое італьянскі ўрад вымагае ад Англіі устрыманьня ад мяшаньня ў справы італьянска-абісінскія, на што Англія ня можа згадзіцца.

Па дарозе з Рыму міністар Ідэн ізноў затрымаецца ў Парыжу, каб вясьці далей пераговоры з Францыяй.

# Праўны куток.

**Спадкабраньне на моцы права.** Маючы на увазе, што беларуская вёска не арыентуецца ў бестэстамэнтавым спадкабраньні, падаем кароткі агляд заканадаўства, рэгулюючага гэтую галіну праўных суадносінаў.

Чароднасьць бестэстамэнтовага спадкабраньня паміж раднёй, азначаецца ў наступным парадку. Найбліжэйшае права да спадку мае лінія сступная (г. з. дзеці, унукі і г. д.), за адсутнасьцяй яе спадак пераходзіць да лініяў бакавых. альбо ў пэўных азначаных выпадках да бацькоў і радні ўступных памёршага. У кожнай лініі ступень радства бліжэйшая вылучае далей Прыкладам, сын за жыцьця бацькі ня можа атрымаць спадак ад дзеда. Калі у моманце адкрыцьця спадку г. з. у часе сьмерці спадкадаўцы, асоба найбліжэйшая, альбо паводле ступені радства роўная з іншымі, ужо ня жыве, то ў яе мейсца ўступаюць яе дзеці, а ў выпадку іх сьмерці ўнукі і далейшыя іх сступныя у чароднасьці, ступеньняў радства. Называецца гэта правам заступства трансмісыяй радні ўступнай права заступства не прыслугоўвае. На моцы права заступства спадак дзеліцца не паводле колькасьці асоб, але паводле колькасьці шчэпаў, г. з. усе сступныя памершага спадкаберцы (прыкладам яго дзеці) атрымоўваюць разам тую самую частку, каторую ён сам-бы атрымаў, калі-б жыў у часе адкрыцьця спадку. Найбліжэйшае права, да спадку па бацьку, альбо матцы маюць іх праўныя дзеці мужчынскага і жаночага роду. Па сьмерці гэтых дзяцей у іх мейсца ўступаюць, на моцы права заступства, унукі, а калі і яны ня жывуць, то праўнукі. Дзеці як мужчынскага, так і жаночага роду па выдзяленьні $^1/_7$ часткі для астаўшайся пры жыцьці маткі або бацькі дзеляць паміж сабою *спадак у роўных часьцях,* паводле лічбы асоб, унукі і праўнукі абодвух радоў дзеляць спадак на моцы права заступства паводле лічбы шчэпаў. Да спадку па мачысе альбо айчыму правоў дзіця ня мае. Калі па сьмерці ўласьніка не асталіся сступныя, то права да спадку пераходзіць да бакавых лініяў. Бліжэйшая бакавая лінія выключае далейшую. Найбліжэйшае права да спадку ў бакавых лініях маюць браты і сёстры незамужныя і замужныя і іх сступныя, каля няма іх, родныя дзядзькі і цёткі з іх сступнымі і г. д. Бацькі не атрымоўваюць у спадку па дзецях маемасьць, набытую апошнімі, але, калі дзеці памруць беспатомна, маемасьць гэтая аддаецца бацькам на дасьмяротнае супольнае карыстаньне. Падчас карыстаньня маемасьць гэную бацькі ня маюць права прадаць, заставіць збыць, каму-небудзь у іншы спосаб. У выпадку атрыманьня дзяцьмі ад бацькоў маемасьці актам даравізны і пры гэтым, калі па памершым сыну альбо дачцы не асталося дзяцей, але толькі насьледнікі з бочнай лініі, то маемасьць гэтая, не як спадак, але як даравізна зьвяртаецца бацьком, кожнаму тое, што ад яго было атрымана, жонка атрымоўвае пасьля мужа усё роўна, ці дзеці ёсьць ці не) *сёмую частку нярухомай маемасьці і чацьвертую частку рухомае.*

**Міхал Г. Слонімшчына.** Вы пішаце, што ў 1929 г. нотарыяльным актам падаравалі свайму пляменьніку некалькі маргоў сенажаці і два гаспадарчыя будынкі.

У сувязі з тым, што ён праяўляе ў адносінах да Вас няўдзячнасьць, якая выражаецца ў лаянках а нават у грозьбе пабіцьця Вас, Вы хочаце гэты акт даравізны ўняважніць. Пытаецеся ці можна гэта зрабіць?

Вось-жа у такім выпадку акт даравізны можна заўсёды ўняважніць. Кодэкс абавязаньяў прадбачыць магчымасьць уневажненьня акту даравізны ў выпадку няўдзячнасьці абдарованага, якая праяўляецца ў дакананьні праступка адносна да даруючага, або цяжкім нарушэньні сямейных абавязкаў.

Аднак-жа зазначаем, што даравізну ня можна ўняважніць у выпадку выбачэньня асобы даруючай і ў выпадку сьмерці асобы, якая даравізну атрымала.

## Вялікая гарачыня.

Ад паловы чэрвеня г. г. ва ўсей Польшчы стаіць вялікая гарачыня—у цяні тэрмомэтр даходзіць да 35 градусаў, а на сонцы звыш 40 градусаў. Шмат у якіх мясцох адначасна здараюцца навальніцы, якія, што праўда, вялікіх шкодаў не зрабілі.

Такая-ж самая гарачыня стаіць і ў іншых краёх—у Нямеччыне, у Расеі, у Швэцыі, Кітаю ды шмат яшчэ дзе. Як доўга яна патрывае, ня ведама. Некаторыя варожаць, што ўсё лета будзе гарачае, бо-ж вясна была халодная, а сярэдняя тэмпература за год бывае больш менш што году тая самая. Як яно будзе сапраўды, ніхто добра ня ведае.



Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.